# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: ***e-krama.com, pahonia.com***
Электронны адрас: ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 12 (622)**
**Сьнежань 2017 г.**


## Паважанае спадарства!

Разам са сьнежаньскім нумарам “Вестак і Паведамленьняў” кожны падпісчык атрымае таксама **каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2018 год** на 28 бачынак. Каляндар выдадзены абмежаваным накладам, але калі вы жадаеце набыць дадатковыя асобнікі каляндара, альбо ня ёсьць падпісчыкам бюлетэня, але хацелі б мець такі каляндар, то яго можна замовіць, напісаўшы ў рэдакцыю на емэйл адрас ***viestki@mail.com*** альбо наведаўшы старонку ***e-krama.com***

Кошт аднаго асобніка з улікам паштовай перасылкі **$8**.




# Лістападаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня” і і прэзэнтацыя альманаху “Беларус” за 2017 год

У суботу 4-га лістапада 2017 году ў Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў лістападаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, на якім адбылася прэзэнтацыя літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус”.

Напачатку сходу выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка, ён прывітаў прысутных і коратка распавёў пра арганізацыю ды пра маючыя адбыцца імпрэзы, заклікаў сачыць за абвесткамі на староцы “Пагоні” ў Фэйсбуку і за яе сайтам у сеціве. Затым сп. В. Зайка аб’явіў прэзэнтацыю альманаху і перадаў далейшае вядзеньне імпрэзы паэту і музыку, а таксама аднаму са сталых аўтараў альманаху “Беларус” сп. Сяржуку Сокалаву-Воюшу.

Сп. Сокалаў-Воюш адкрыў прэзэнтацыю і даў слова рэдактару альманаха сп. Марату Клакоцкаму. У сваёй прамове сп. Клакоцкі згадаў гісторыю стварэньня альманаху, прынцыпы адбору аўтараў-беларусаў, а цяпер часта і прадстаўнікоў іншых нацыяў, што пішуць па-беларуску і жывуць па-за межамі Беларусі. Прамоўца адзначыў, што выданьне дасягнула свайго 10-гадовага юбілею і ў цяперашнім, адзінаццатым, выпуску прадстаўленыя 29 аўтараў з 11 краінаў сьвету. Усяго за 10 год існаваньня выданьне стала пляцоўкай-трыбунай для 55 аўтараў, чатырох зь якіх ужо няма з намі. Па памеры гэты выпуск рэкордны, ён мае 420 старонак. “Цяпер дакладна ня ведаю пра наступныя свае пляны, але, як ёсьць патрэба ў такім выданьні, дык буду рабіць”.




Затым сп. Клакоцкі адказаў на пытаньні прысутных, сярод якіх былі пра канадыйскіх суайчыньнікаў і аўтараў і пра паездку сп. Клакоцкага сёлета ў Канаду на сустрэчу з чытачамі. Было пытаньне, ці павялічылася, у параўнаньні з папярэднімі нумарамі, колькасьць перакладаў. На гэтае пытаньне сп. Клакоцкі адказаў, што перш быў даволі стрыманы што да публікацыі перакладаў, бо перавага мусіць быць арыгінальным творам, але пасьля пераканаўся, што пераклады гэтак жа важныя і, як казаў сп. Вітаўт Кіпель на адной з прэзэнтацыяў, добра зроблены пераклад робіцца фактам той літаратуры, на мове якой пераклад створаны. Сёлета ў штогадовіку прадстаўлена досыць шмат перакладаў.

*працяг на бачыне 2*

*працяг з бачыны 1*

Было пытаньне пра аўтарку альманаху з Гішпаніі Анхэлу Эсьпіносу Руіс. Сп. Клакоцкі распавёў, як навязаўся кантакт зь ёю, пра досьвед камунікаваньня, і што ад Анхелы мае самыя найлепшыя ўражаньні. На пытаньне, ці пісаў ён сам калі нейкі твор, сп. Марат Клакоцкі адказаў: "Не пішу. Лічу, што не склаўся яшчэ, як пісьменьнік". Але прысутныя адчулі, што пераўвасабленьне з чытача і выдаўца ў аўтара зусім ня выключанае.

Затым сп. Сокалаў-Воюш пачаў прадстаўляць прысутных аўтараў альманаху і прапанаваў рабіць гэта не па альфабэце, як гэта рабілі заўсёды, а ў зваротным парадку. Такім чынам першай мусіла б быць сп-я Валянціна Якімовіч. Сталая аўтарка выданьня, нажаль, не змагла быць на прэзэнтацыі і прасіла сп. Сокалава-Воюша прачытаць за яе вытрымку з аднаго з твораў, зь "Цёплага зімовага эцюду", што ён і зрабіў, але перад гэтым таксама працытаваў некалькі цікавых урыўкаў з аповяду пра 19-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Сп-ня Алена Кавальчук назвала Валю Якімовіч "беларускай Француазай Саган", што было з энтузіязмам сустрэта прысутнымі.

Затым выступіў сп. Аляксандар Хацкевіч. Ён упершыню публікаваўся ў альманаху з урыўкам з аповесьці "Замак на ўзгорку" – фактычна першай сваёй публікацыяй па-беларуску. Ён распавёў прысутным пра сябе і прачытаў свой новы твор, гэтым разам вершаваны зварот пра мастацтва і ягоныя ўзаемаадносіны з уладаю. Выступ сп. Хацкевіча быў цёпла прыняты прысутнымі, і вядучы заклікаў яго працягваць творчасьць.

Сп-ня Ірына Хадарэнка, аўтарка нарысу "Эра сымулякраў", коратка распавяла пра сябе і свой твор і пасьля спынілася на альманаху і ягоных пэрспэктывах, выказала сваю апінію пра тое, што магчыма патрэбны больш пільны адбор аўтараў для выданьня, каб яно стала трывалым і аўтарытэтным. "Варта было б крытычна пераглядзець палітыку ў адносінах да твораў і падумаць, ці варта друкаваць усё запар". На гэта сп. Клакоцкі адказаў, што не хацеў бы цяпер мяняць стаўленьне да гэтага, бо адной з асноўных мэтаў выданьня, як ён лічыць, ёсьць стымуляваць творчасьць суайчыньнікаў на чужыне, а пераход на пэўныя прафэсійныя ці элітысцкія падваліны не спрыяў бы гэтай мэце.

Затым перад прысутнымі выступіў сп. Юры Міхед, ён распавёў пра сябе і пра свой шлях да беларускага слова, бо вырас у расейскамоўнай сям'і не ў Беларусі, і маці ягоная расейка. "Далучэньне да беларускай мовы адбылося праз дзеда па бацьку, да якога прыяжджаў у Беларусь, і які падараваў слоўнік Грабчыкава, які ў сваю чаргу стымуляваў далейшае вывучэньне беларускай мовы". Сп. Міхед распавёў пра сваю перакладчыцкую дзейнасьць і пераклады з твораў братоў Стругацкіх. "Пікнік на ўзбоччы" – гэта як алегорыя Чарнобылю яшчэ год за 15 да Чарнобыльскай катастрофы, гэта важны і цікавы твор, і аўтар перакладу выказаў спадзяваньне, што ягоная праца будзе заўважаная – ён зробіць прэсрэліз пра тое, як спампаваць ягоныя пераклады. Сп. Міхед адказаў на пытаньні пра вычытку твораў, пра валоданьне мовамі, у тым ліку латыскай, і пра асаблівасьці перакладаньня Стругацкіх. Ён адзначыў таксама, што, беручыся за пераклад, думаў пра выбар правапісу і спыніўся на тарашкевіцы, якая падалася больш натуральнай, а таксама напісаў кампутарны "скрыпцец", каб праводзіць "тарашкевізацыю" тэкстаў.

Сп-ня Марына Кражова распавяла пра сябе і пра свае творы, у тым ліку вершы, якія выйшлі ў сёлетнім альманаху. Яна выказала падзяку рэдактару за ўвагу і патрымку маладых аўтараў і выказала надзею на далейшае супрацоўніцтва.

Пра сваю творчасьць распавёў і сам вядучы сп. Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён таксама спыніўся на важнасьці перакладаў і прачытаў макаранічны (дзьвухмоўны) верш чачэнскага паэта, ваяра і палітыка Зэлімхана Яндарбі, што загінуў ад рук расейскіх спэцслужбаў. Ён ведаў Яндарбі асабіста: "Зэлімха быў з тых, зусім іншых чачэнаў, годных і прынцыповых, якія былі зусім іншымі людзямі, у адрозьненьні ад цяперашняга чачэнскага кіраўніцтва". Сп. Сокалаў-Воюш згадаў пра загадкавую гісторыю з падрыхтоўкай кнігі перакладаў чачэнскіх паэтаў па-беларуску. Перакладаў для яе таксама Рыгор Барадулін, і дачыненьне да выхаду кнігі мела журналістка Вольга Караткевіч, якой ужо няма ў жывых. Кніга тая нібыта і выйшла, але яе ніхто ня бачыў.

Апошнім з аўтараў выступіў сп. Віталь Зайка з кароткім аповядам пра перадгісторыю і пэрсанажаў свайго апавяданьня пра калектывізацыю "Зося". Ён адзначыў, што з тых часоў, з канца 1920-х гадоў, ідзе вынішчэньне ў Беларусі сялянства і разам – вынішчэньне беларускасьці, што абодва працэсы працягваюцца, нажаль, і па сёнешні дзень. Затым сп. Віталь Зайка падзякаваў рэдактару сп. Марату Клакоцкаму за ягоную адданую працу на выдавецкай ніве і прачытаў у ягоны гонар адмыслова перакладзены верш вялікага грэцкага паэта К. Кавафіса "Тэрмапілы" – пра мужнасьць, стойкасьць, вернасьць свайму прызначэньню.




Сп-ня Ганна Шарко выступіла ад імя моладзі і падзякавала сп. Марату Клакоцкаму за ягоную ахвярную дзейнасьць па выданьні альманаху і бюлетэню Згуртаваньня "Пагоня" – "Весткі й Паведамленьні", за падтрымку моладзёвых ініцыятываў у Нью-Ёрку.

Пры прытушаным сьвятле сп-ні Ганна Шарко і Марына Кражова пад воплескі

*заканчэньне на бач. 3*

# Тое, што мы ўзялі з сабою. Нашая мова

Чаму мы ўсё часьцей паслугоўваемся расейскай мовай на нашых сустрэчах? Чаму мы, беларусы, якія сустракаючыся раз на месяц у Нью-Ёрку, вітаемся па-расейску? Чаму ў кожнага выступоўцы першай фразай заўсёды аўтаматам вылятае: “Прошу прощения, я буду говорить на русском”? І гэта не пытаньне, ніхто не чакае на адказ залі, на нашыя “не” ці “працягвай па-расейску, і так добра”. Гэта аўтаматычны ўступ, гэта частка small talk, гэта як how are you today.

Сустрэчы “Пагоні” раз на месяц – гэта наш кампактны асяродак Беларусі. Там не прысутнічае Лукашэнка, там няма прадстаўнікоў беларускага КДБ, там няма звар’яцелых беларускіх міністраў і прызначаных паслухмяных дэпутатаў так званага парлямэнту. Там зьбіраемся мы, беларусы, і мы там абмяркоўваем нашыя беларускія пытаньні, нават калі часам гэта цалкам празаічныя праблемы выбару каледжу ці месца працы.

Ці шмат мы маглі ўзяць с сабою беларускага ў нашых торбах ды заплечніках, калі зьязджалі з нашай краіны і з нашага роднага месца на такі доўгі час ці ўвогуле назаўседы? Хутчэй за ўсе, там не было аніводнай беларускай кнігі, нават у тэлефоне, ноўтбуку ці айпадзе. Ці была беларуская музыка на нашых айподах, калі мы зьязджалі з краіны? Хутчэй за ўсяго была – бо мы былі такія сучасныя беларусы, мы не ўзяліся зь ніадкуль, музыка нас цікавіла больш за кнігі – але так ці інакш, мы слухалі нашае, беларускае, і яно нам падабалася. Але мы ўзялі з сабою нешта іншае, большае за кнігі, большае за музыку, большае за стаптаныя ў Гародні ці Мінску пантофлі, большае чым ужываныя ў Слуцку ды Магілеве айподы ці там жа састарэлыя айфоны. Мы ўзялі з сабою недэкляраваную сапраўдную каштоўнасьць, якую не маглі прасачыць нават супэрпрафэсіянальныя ахоўнікі ў аэрапортах Менску, Нью-Ёрку ці Ньюарку. Мы ўзялі з сабою нашую мову.

Нашая мова – гэта такі скарб, у які ніколі не залезе сваімі крывавымі рукамі Лукашэнка ці ягоныя вусатыя і так хутка сталеючыя сыны. Гэта такі скарб, які не скрадзе аніякі злодзей з вашай новай хаты ў Брукліне ў самым дрэнным і танным ягоным мікрараёне. Нашая мова – гэта тое, што аб’ядноўвае нас і дае нам права называць сябе беларусамі. Нашая мова – гэта нашая Беларусь, гэта наш Купала, наш Багдановіч, наш Быкаў, нашыя 90-я, нашыя пратэстныя акцыі і мітынгі, наш Пазьняк, нашая Плошча, нашыя сінякі ды судні ад амапаўцаў, наш дом, нашая сям’я і нашая Радзіма.

Чаму гангстэры з Гарлему ды Бронксу такія крутыя, што мы штогод сочым за іхнымі прыгодамі ў выкананьні сусьветна вядомых рэжысэраў? Вы не зразумеце аніводнага іхняга слова, нават калі вы два ці тры гады ў Штатах... Чаму нашыя браты, украінцы, такія крутыя, што яны ўжо каторы год мужна супрацьстаяць нахабнай расейскай навале? Чаму нашыя браты, украінцы, такія крутыя, што іх рэстарацыі тут, у Нью-Ёрку на Другой авэню, не называюцца “Украінская КСАТА”? Таму што ў гангстэраў з Гарлему і ўкраінцаў зь Нью-Ёрку ёсьць іхняя мова, і яны ёю паслугоўваюцца. Хто мы бяз мовы на нашых сустрэчах? Гастарбайтары, бадзягі, ураджэнцы Беларусі без культуры і без будучыні – нават калі гэтая краіна абяцае і дае нам гэткую лепшую будучыню.

Нашы сустрэчы маглі б быць тым месцам, дзе б мы размаўлялі па-беларуску. Сёньня расейская мова – гэта больш ня мова расейскай літаратуры ці мастацтва, гэта больш ня мова вымушаных краінаў-закладнікаў былога СССР: гэта мова прапаганды, мова крыві, мова ілжы, мова агрэсіі супраць сваіх жа суседзяў. Нашыя сустрэчы маглі б быць месцам, дзе мы б не ўжывалі мову акупантаў Крыму і Данбасу, мову звар’яцелай ад уседазволенасьці кадэбэшнай да партыйнай савецкай намэнклятуры.

Але калі мы так добра пачуваемся і без нашай мовы, калі двум беларусам у Штатах яна ўжо не патрэбная для таго, каб паразумецца, ёсьць і іншая альтэрнатыва расейскай – давайце размаўляць на нашых сустрэчах па-ангельску! Ангельская ў нас яшчэ нашмат горшая, чым нашая беларуская, але ў гэткай ангельскай няма анічога дрэннага – гэта мова нашай працы і нашых штодзённых камунікацыяў. Але кожны раз, калі паміж сабою два беларуса, дзе бы яны не былі, ужываюць расейскую мову, у сьвеце нараджаецца яшчэ адзін нябачны “ветлівы чалавечак”.

Я ня супраць узяць на працы выходны ў суботу, каб пайсьці на сустрэчу “Пагоні”, пабачыць даўно знаёмыя і новыя твары ды паслухаць аповед, як нехта добра зьезьдзіў у цікавую вандроўку і нарабіў там да гары прыкольных фотак. Я абяцаю аднойчы таксама сабрацца зь сіламі і падрыхтаваць падрабязны даклад, як я, беларус, тут, у Нью-Ёрку, сам на сам першы раз гатаваў качку на кітайскі Новы год. Але я адчуваю сябе вусьцішна, слухаючы на сустрэчах беларусаў расповеды пра вандроўкі на расейскай. Ці мог я такі ж расповед пачуць на Брайтан-Біч каля расейскай крамы? Так. Дык чым нашая сустрэча адрозьніваецца ад балбатаньня брайтанскіх цётак? Я не хачу быць расейскамоўнай цёткай з Брайтан-Біч. Ня хочаш быць гэтакаю цёткаю і ты, малады беларус, які зьехаў у Штаты і спрабуеш штосьці тут знайсьці.

**Максім ІВАШЧАНКА**

## Лістападаўскі сход і прэзэнтацыя альманаха

*заканчэньне з бачыны 2*

прысутных паднесьлі падарункі рэдактару альманаха сп. Марату Клакоцкаму, сапраўднаму юбіляру на імпрэзе – торт з бэнгальскімі агнямі й надпісам “Альманаху – 10 год! Дзякуем, Марат!” і гадзіньнік з гравіроўкай.

Пасьля адбылася нефармальная сяброўская імпрэза-сьвяткаваньне 10-гадзьдзя альманаху зь віном і пачастункамі. Прысутныя на імпрэзе выказвалі сваё захапленьне і радасьць з нагоды прэзэнтацыі й сьвяткаваньня.

**Віталь ЗАЙКА**



# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Zombiewood

Калі падчас апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у Амэрыцы ўсплыла афёра Pizza Gate, якая апавядала пра пэдафільскую сетку ў найвышэйшых колах улады і кіно, то частка грамадзтва, якая высьмейвае закулісныя змовы, адрэагавала сьмехам і ў гэты раз. Праўда, сьмех быў нэрвовы. А не прайшло надта шмат часу, як мы даведаліся, што ўся дзейнасьць Галівуду шчыльна зьнітаваная з пэдафільскай сеткай, якая дзейнічала і, магчыма, працягвае дзейнічаць пад шыльдаю кінамастацтва.

Кэвін Спэйсі, выдатны, між іншым, актор і чалавек, які дзякуючы сябручкам са Свабоднага Тэатру пасьпеў пакрычаць на камэру “Жыве Беларусь”, аказаўся сэксуальным маньякам, ці як цяпер модна казаць – сэксуальным драпежнікам. Спэйсі правініўся і прызнаўся ў абвінавачаньнях у дачыненьні да, на той час непаўнагадовага, хлопца, хітра спалучыўшы сваю заяву з прызнаньнем у гомасэксуальнасьці. Лібэральныя мэдыі былі нават паспрабавалі ўратаваць свайго чалавека, ставіўшы ў гэтай навіне акцэнт на адважны “coming out” актора і ссоўваючы інфармацыю пра пэдафільства на другі плян, але ягоную кар’еру так і не ўратавалі.

Помню, што падлеткам некалькі разоў з захапленьнем праглядаў “American Beauty”. З нагоды напісаньня гэтага тэксу вырашыў абнавіць фільм і нават ня змог даглядзець яго да паловы. Чары зьніклі. І не сказаць, каб Спэйсі дрэнна зайграў у гэты раз сваю ролю, наадварот, як заўсёды выдатна. Але калі пачынаеш разумець мэханізмы, што стаяць за Галівудзкім мэнталітэтам, то пачынаеш успрымаць іх працу не як мастацкі прадукт, а як прадукт прапаганды – усё становіцца на свае месцы. Бацька – агрэсіўны маньяк, маці – дэпрэсіўная вар’ятка, сям’я – зло, ну і гэтак далей па тысячу разоў праверанаму сцэнару...

**Віталь ВОРАНАЎ**

*Police:* Sir how fast do you think you were going when you drove through that stop sign?

*Kevin Spacey:* I’m Gay.



---

**Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

- І. Дубікоўскі ..............60
- М. Кражова ...............60
- М. Кучынскі ..............60
- В. Лукін ..................60
- В. Міклашэвіч ............60
- А. Панфілаў ..............60
- С. Радзько ................60
- А. Чафранаў ..............60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца ў суботу **9-га сьнежня 2017 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы сайт* **pahonia.com**

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

- А. Кавальчук ..............30
- М. Кражова ...............30
- В. Лукін ..................30
- В. Міклашэвіч ............30
- І. Мілеўская ..............30
- В. Пятроў .................30
- С. Радзько ................30
- В. Трыгубовіч .............30
- А. Чафранаў ..............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

---

***Шаноўныя сябры!** Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. (**гл. інфармацыю аб стане падпіскі на бюлетэнь на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

*Паважаныя **А. Волкава, А. Данкоў**, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

*Электронны варыянт бюлетэня можна знайсьці ў інтэрнэце на сайце* ***e-krama.com***